**Леанід Галубовіч**
**Мікола Яцкоў**

# Забыць цябе...

***Песні***






**Брылі**
**2009**



**Леанід Міхайлавіч Галубовіч** нарадзіўся 12 жніўня 1950 г. у вёсцы Вароніна Клецкага раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Грыцэвіцкай сярэдняй школы Клецкага раёна, затым слуцкай прафесійна-тэхнічнай навучальні № 97 працаваў электрыкам на Жабінкаўскім цукровым заводзе. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў электрыкам на прадпрыемствах Слуцка, Жабінкі, Клецка. У 1989 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных праграм на Беларускім тэлебачанні. Зараз -- рэдактар аддзела крытыкі і паэзіі штотыднёвіка "ЛіМ". Сябра СП СССР з 1984 г.

У друку выступае з 1967 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Таемнасць агню» і «Споведзь бяссоннай душы» .



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылеўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за 900 песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Тамаша Ляшонка), "Знічка" (на вершы Івана Карэнды) і інш. Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага "Гімна Магілёва".



# Забыць цябе...

Словы Леаніда Галубовіча

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 76

Am Dm

За-быць ця-бе, і я ця-бе за - бу - ду, тва-

4 E7 Am F

ё і-мя і це-ла кож-ны зрух, наш дзіў-ны час, як тон-ку-ю па-

7 Dm Am E7 F

су - ду, я вы-пу-шчу я-шчэ, на пэў-на, з рук, я

10 Dm E7 Am

вы - пуш - чу я - шчэ, на - пэў - на, з рук.



**Забыць цябе... І я цябе забуду –**
**Тваё імя і цела кожны зрух...**
**Наш дзіўны час, як тонкую пасуду,**
**Я выпушчу яшчэ, напэўна, з рук,**
**Я выпушчу яшчэ, напэўна, з рук.**

**Забыць цябе... І я цябе забуду...**
**Але пакуль ты не сышла з вачэй,**
**Як азіят, што моліцца на Буду,**
**Малюся на цябе сярод начэй,**
**Малюся на цябе сярод начэй.**

**Забыць цябе... Як забываюць Бога,**
**Калі праступіць холад на ілбе,**
**І права дасць забыць сябе самога,**
**І вечнасць дасць не думаць пра цябе,**
**І вечнасць дасць не думаць пра цябе.**



# Не сцялі мне мяккую пасцелю...

Словы Леаніда Галубовіча

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 76

Dm E7
Не сця - лі мне мяк-ку - ю па - сце - лю, доў - га

4 A7 D Dm Am
бу - ду бес-пра-буд-на спаць, пра ця - бе за - бу - ду, не пас - пе - ю

8 H E7 Am
са - ма - е га-лоў-на - е ска - заць. Па - сця - лі мне цвёр-ду - ю па-

11 Dm G C
сце - лю, так, каб з не - ах - во-тай клаў-ся спаць, ус - та-

14 F H E7
ваў на зор-цы і пас - пеў бы у жыц - ці га - лоў-на - е ска-

17 Am F G C
заць, у жыц - ці га - лоў - на - е ска - заць.



**Не сцялі мне мяккую пасцелю.**
**Доўга буду беспрабудна спаць.**
**Пра цябе забуду. Не паспею**
**Самае галоўнае сказаць.**

**Пасцялі мне цвёрдую пасцелю,**
**Так, каб з неахвотай клаўся спаць.**
**Уставаў на зорцы. І паспеў бы**
**У жыцці галоўнае сказаць,**
**У жыцці галоўнае сказаць.**



# Восені светлыя часіны

Словы Леаніда Галубовіча

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 80

C Dm

І ў во-се-ні ёсць свет-лы-я ча-сі-ны, га-

4 G C Am

рыць а-гонь кля-но-ва-га ліс-ця, і пла-ча клін вы-со-кі жу-раў-

7 Dm E7

лі-ны ад па-мя-ці, а не ад за-быц-ця. Мой веч-ны

10 Dm E7 Am

свет у во-сень-скай за-ду-ме, га-рыць ду-ша аг-нём твай-го ліс-

13 F Dm

ця, па-куль я-го су-ро-ва не за-

15 Am Dm E7 Am (G)

ду-е ад-веч-ны сон і хо-лад за-быц-ця.



**І ў восені ёсць светлыя часіны...**
**Гарыць агонь кляновага лісця,**
**І плача клін высокі жураўліны**
**Ад памяці, а не ад забыцця.**

**П р ы п е ў : Мой вечны свет у восеньскай задуме.**
**Гарыць душа агнём твайго лісця,**
**Пакуль яго сурова не задуе**
**Адвечны сон і холад забыцця.**

**І ў восені ёсць светлыя часіны...**
**Я ў сумраці прасветлага шукаў.**
**Вясковая разбітая сцяжына**
**Выводзіла з глушы да бальшака.**

**П р ы п е ў .**

**І ў восені ёсць светлыя часіны...**
**Далонь мая на векавым ствале.**
**О, ведаць бы, адкуль бяруцца сілы**
**Людской душы, калі іх не стае.**

**П р ы п е ў.**



# Змест





*Літаратурна-музычнае выданне*

Галубовіч Леанід Міхайлавіч
Яцкоў Мікалай Адамавіч

*Забыць цябе...*
Песні

*Рэдактар - А.М.Яцкова*
*Нотаграфія - Sibelius 3*

Выдавец і паліграфічнае выкананне




*№ 44*
*15. 02. 2009 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
brylibelarus@gmail.com

